# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 18 (2264) 30 красавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).



Радасным звонам, што ліўся з царкоўных званіц, узнёслымі і шчырымі малітвамі ў храмах, спакоем і надзеяй, якія напаўнялі душы людзей, быў адзначаны сёлетні Вялікдзень у Беларусі. З Велікодным пасланнем да сваёй паствы звярнуўся Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, член Свяшчэннага Сінода ФІЛАРЭТ. Сёлетні Вялікдзень адзначаўся ўпершыню ў атмасферы волі, без страху і ідэалагічнага ціску. Да радасці вернікаў, свята прызнана дзяржавай, гэта былі дні, вольныя ад працы, і таму, нягледзячы на цяжкі і складаны час, які перажывае Беларусь, Велікоднае свята прынесла радасць і духоўнае задавальненне ў нашы сем'і.

(Велікоднае пасланне Мітрапаліта ФІЛАРЭТА чытайце на стар. 5).

### З ЖЫЦЦЯ ЗГУРТАВАННЯ

### БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ Ў МАСКВЕ

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДУХ— НЕ МІСТЫКА

Нашае згуртаванне існуе ўжо не першы год. У кастрычніку мінулага ў ЗБММ «Пагоня» прыйшло шмат новых людзей з новымі ідэямі і жаданнем зрабіць нашае жыццё больш цікавым. Але трэба адзначыць, што і раней у нас было шмат спраў, падзей. Не забываюцца вандроўкі па мясцінах Масквы і Падмаскоўя, звязаных так ці інакш з беларускай гісторыяй і культурай, з дзейнасцю беларусаў у Расіі. Мы помнім прыезд да нас Данчыка, В. Цярэшчанкі, у чыіх песнях, здаецца, чуецца голас самой Беларусі. Сустракалі мы ў сябе С. Шушкевіча, З. Пазьняка, М. Ермаловіча, Яна Матусевіча ды іншых вядомых дзеячаў палітыкі і навукі, рэлігіі. Пастаянна з намі ў кантактах А. Адамовіч, У. Шыраеў, А. Каўка — усё вядомыя на Беларусі людзі. Разам з Таварыствам беларускай культуры імя Ф. Скарыны «Пагоня» арганізоўвала лекцыі па гісторыі, мовазнаўству, рэлігіях. Рэгулярна праводзіліся і праводзяцца беларускія культурныя святы, куды запрашаюцца ўсе жадаючыя жыхары Масквы. Добра мы правялі апошняе свята Івана Купалы, якое ладзілі разам з латышамі, эстонцамі і летувісамі на рацэ пад Масквою.

Зараз хочам устанавіць памятны знак на доме, дзе загінуў Янка Купала.

Што датычыцца спецыфікі менавіта нашае маладзёжнае арганізацыі, дык яна ў тым, што амаль усе яе сябры жывуць у Маскве часова — падчас навучання ў ВНУ, а потым вяртаюцца на Бацькаўшчыну. На жаль, пакуль што застаецца справядлівым той факт, што ўзровень навучання ў Маскве больш высокі, чым на Беларусі, што тлумачыцца гісторыяй імперыі — трагічнай гісторыяй вынішчэння самабытных нацыянальных культур. Само жыццё ў Маскве шмат чаму вучыць і перш за ўсё — нацыянальнаму патрыятызму. Толькі тут многія адчулі, што самабытны беларускі дух — гэта не містыка, а самая найпершая рэчаіснасць, якая можа моцна аб'яднаць людзей вакол сябе. І перш-наперш менавіта гэта аб'яднала ўсіх нас тут.

Сярод нас у асноўным студэнты МДУ, Гісторыка-архіўнага інстытута, Інстытута міжнародных зносін, Баўманскага універсітэта. З 1988 года многія нашыя сябры вядуць даследчыцкую і навуковую дзейнасць па літаратуры, гісторыі, этнаграфіі Беларусі. Мы лічым, што будучыня Беларусі — у развіцці і выкарыстанні інтэлектуальнага патэнцыялу яе моладзі.

Да кастрычніка 1991 года мы нагадвалі хутчэй клуб, чым грамадскую арганізацыю. Але нарэшце вырашылі перайсці да актыўнай дзейнасці, галоўнае ў якой — падтрымліваць

(Заканчэнне на 7-й стар.).

### ТАМ ДОБРА, ДЗЕ НАС НЯМА. АЛЕ ШТО НАМ ПЕРАШКАДЖАЕ І САМІМ ПЕРАКАНАЦЦА, ЯК ТАМ КЕПСКА?

## СЛУЖБА АВІР УПАЎНАВАЖАНА ЗАЯВІЦЬ, што

**1. «ЧАЦВЁРТАЯ ХВАЛЯ ВЫЕЗДАЎ ЗА МЯЖУ НА ПАСТАЯННАЕ ЖЫХАРСТВА Ў 1991 ГОДЗЕ ЗНАЧНА СТРАЦІЛА СВАЮ СІЛУ...» 2. «80—85 ПРАЦЭНТАЎ ЭМІГРАЦЫІ З БЕЛАРУСІ ПРЫХОДЗІЦЦА НА ІЗРАІЛЬ...». 3. «НА СЁННЯ ЁСЦЬ ЦЯЖКАСЦІ З РАСПРАЦОЎКАЙ БЕЛАРУСКАГА ЗАКОНА АБ УЕЗДЗЕ-ВЫЕЗДЗЕ...» 4. «НІКОЛІ ЯШЧЭ СЛУЖБА АВІР НЕ ЗНАХОДЗІЛАСЯ Ў ТАКІМ СКЛАДАНЫМ СТАНОВІШЧЫ...»**

Без малога год мінуў, як «Голас Радзімы» (№ 28 ад 11 ліпеня 1991 г.) змясціў артыкул «Зыход», у якім узнімаліся пытанні выезду за мяжу. З таго часу ў нашым жыцці і поглядах здарыліся такія падзеі, што год гэты можна смела запісаць за дзесятак. А сёння быццам бы і не існуе СССР, быццам бы лунае дэмакратызацыя, а галавешкі ідэалагічнай барацьбы дзвюх сістэм навекі патухлі, быццам бы ад фундаменту «жалезнай заслоны» не засталося і друзу... І быццам бы ніхто нам не забараняе сёння ехаць за мяжу, каб у садах капіталістычнага Эдэма нарваць райскіх яблыкаў шчасця і дабрабыту. І сабе, і дахаты за пазухай прывезці... Год мінуў, а між тым праблематыка ўезду-выезду абрастае ўсё новымі пытальнікамі, даходным бізнесам дзялкоў, раз'ядаецца, як плесневым грыбком, карупцыяй дзяржаўных служачых, наводзіць перапалох на заходнія дзяржавы маючым адбыцца нашэсцем галодных і халодных бежанцаў — «саўкоў»...

І мы зноў, як і летась, прыйшлі па тлумачэнні да начальніка рэспубліканскай службы АВІР МУС РБ Сяргея СТЭСІКА.

**— Сяргей Іванавіч, дынаміка выездаў за мяжу цягам пэўнага перыяду давала падставу прагназіраваць абвальную, масавую эміграцыю беларусаў на Захад. Называлася лічба 50 тысяч на 1991—1992 гады. Ці пацвердзіўся гэты прагноз?**

— Не пацвердзіўся. Чацвёртая хваля выездаў за мяжу на пастаяннае жыхарства ў 1991 годзе аж напалову страціла сваю сілу. Аднак тут варта разабрацца: 80—85 працэнтаў эміграцыі з Беларусі прыпадае на Ізраіль. Як правіла, у гэтым накірунку выязджаюць асобы яўрэйскай нацыянальнасці і члены іхніх сем'яў. А па звестках з друку вядома, што эканамічнае становішча ў Ізраілі змянілася ў горшы бок. Да таго ж урад краіны адмяніў шэраг датацый, якія выдаваліся да гэтага года імігрантам на набыццё кватэры, аўтамабіляў, нятаннай бытавой тэхнікі і г. д. Ёсць і ў былых савецкіх яўрэяў цяжкасці з уладкаваннем на работу, як говораць тыя, хто вярнуўся. Усё гэта некалькі астудзіла імпэт перасялення. Хоць, безумоўна, калі браць



нашы ўмовы, гаспадарчую разруху, інфляцыю...

**—Вы сказалі «як правіла» выязджаюць яўрэі. А што, ёсць і выключэнні! Як многа іх і якім чынам здараюцца! І яшчэ вы**

(Працяг на 4-й стар.).

В. КЕБІЧ У ПОЛЬШЧЫ

## ШЫРОКІ СПЕКТР ПЫТАННЯЎ

Па запрашэнню прэм'ер-міністра Польшчы Яна Альшэўскага ў Варшаве з афіцыйным візітам пабывала ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам. Яго суправаджалі міністр замежных спраў П. Краўчанка, старшыня Дзяржзнешэканомсувязі В. Радкевіч, міністр унутраных спраў В. Ягораў, старшыня Дзяржтаможні Г. Шкурдзь, старшыня Брэсцкага аблвыканкома В. Бурскі, народны дэпутат Беларусі А. Вярцінскі і іншыя афіцыйныя асобы.

Прадстаўнічы састаў дэлегацыі сведчыць аб шырокім спектры пытанняў, якія абмяркоўваліся ў час двухдзённых перагавораў. Большасць з гэтых пытанняў былі папярэдне намечаны яшчэ на сустрэчы двух прэм'ераў у Віскулях, якая адбылася 14 сакавіка гэтага года. Сярод іх — аб нармалізацыі праезду грамадзян абедзвюх рэспублік праз беларуска-польскую граніцу (плануецца адкрыць дадаткова 3 кантрольна-прапускныя пункты і адзін тэрмінал), аб барацьбе з наркабізнесам, які ўсё больш актыўна скарыстоўвае нашу мяжу, аб нацыянальных меншасцях, што жывуць у абедзвюх рэспубліках, аб адкрыцці сумеснага камерцыйнага банка. Беларусь зацікаўлена ў выкарыстанні польскага марскога порта Гдыня, у закупках у Польшчы вугалю і зерня. Абмеркаваны таксама праблемы транспарціроўкі праз польскую тэрыторыю воінскіх часцей з Германіі і Польшчы на месцы пастаяннай дыслакацыі ў Беларусі, а таксама іншыя пытанні, што тычацца развіцця супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі.

Падпісаны шэраг важных міжурадавых пагадненняў.

ВІЗІТЫ

## РЭПАТРЫЯЦЫЯ ЯЎРЭЯЎ

Візіт старшыні Сусветнага яўрэйскага парламента Сімха Дзініца ў Беларусь быў выкліканы яшчэ і той акалічнасцю, што яго маці родам з Камянца Брэсцкай вобласці.

«Мы хочам прадаставіць абслугоўванне ўсім яўрэям, якія жадаюць выехаць з Беларусі, — сказаў Сімха Дзініц. — Гэта галоўная мэта майго візіту». Кіраўнік Сусветнага яўрэйскага парламента, працягваючы тэму рэпатрыяцыі, заявіў: «Нават калі ўсе яўрэі свету пераедуць у Ізраіль, шчыльнасць яго насельніцтва ўсё роўна будзе меншай, чым у Галандыі ці Бельгіі».

Сімха Дзініц сустрэўся з прадстаўнікамі яўрэйскай абшчыны, а таксама са спікерам беларускага парламента Станіславам Шушкевічам і першым віцэ-прэм'ерам Міхаілам Мясніковічам. Цяпер вядзецца падрыхтоўка да адкрыцця ў Ізраілі беларускага гандлёвага дома і афіцыйнага візіту Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча ў Ізраіль.

ДАМЫ ДЛЯ ВАЕННЫХ



**У Бярозе пачата будаўніцтва жылога мікрараёна ў комплексе з сацыяльна-бытавымі аб'ектамі. Ён прызначаны для ваеннаслужачых, якія вяртаюцца з Германіі. У семнаццаці пяціпавярховых дамах напярэдадні новага года справяць наваселле 720 сямей. Узводзіць аб'екты Мінскае арэнднае вытворчае аб'яднанне індустрыяльнага домабудавання «Мапід» пад кіраўніцтвам спецыялістаў, што прыехалі з Германіі.**

**НА ЗДЫМКУ: на будаўнічай пляцоўцы жылога мікрараёна.**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## ПАЛЯЦЬ ФЕРМЕРАЎ

Паводле даных Сялянскага саюза Беларусі, у Слуцкім раёне быў падпалены дом фермера Міхаіла Сокалава.

Тры гады будаваў ён сваё жыллё. І вось, здавалася, будаўніцтва закончана. Фермер ужо сабраўся перабірацца са сваёй сям'ёй у новы дом, але адбылося самае нечаканае — пажар знішчыў усё. Фермер лічыць, што гэта не проста няшчасны выпадак, а падпал. Трэба адзначыць, што дом не быў застрахаваны. Паводле інфармацыі Сялянскага саюза, аналагічны выпадак адбыўся ў мінулым годзе ў Бярозаўскім раёне.

СТАТЫСТЫКА

## МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ШЛЮБЫ

Сярод міжнацыянальных шлюбаў 89 працэнтаў — шлюбы, дзе адзін (муж ці жонка) беларус. Гэта і зразумела, бо беларусы складаюць больш дзвюх трэціх насельніцтва. А хто ж іх выбраннікі? У 66,2 працэнта — рускі ці руская, у 10 — украінцы, у 4,4 — палякі, у 2,5 — яўрэі і ў 5,5 працэнта —літоўцы, грузіны, татары, армяне і іншыя. Заўважана, што сярод усіх іншых нацыянальнасцей найбольш імкнуцца да аднанацыянальных шлюбаў яўрэі, у якіх традыцыі адасаблення аказаліся больш жывучымі, чым у іншых народаў.

АПОШНІ... ХІРУРГ



**Працоўны дзень Міхаіла БЕЙМАНАВА (на здымку) непадуладны ніякаму распарадку. У аперацыйную Хойніцкай раённай бальніцы яго могуць выклікаць у любы час сутак. І хаця ён, сапраўды, выдатны спецыяліст, такая незаменнасць яго не радуе.**

**...Пасля заканчэння Мінскага медыцынскага інстытута прыехаў Міхаіл Бейманаў працаваць у Хойнікі. Тры дзесяцігоддзі прайшло з тае пары. Стаў ён за гэты час вопытным, ведаючым сваю справу хірургам. Вось ужо два гады мог бы быць на пенсіі, але аказаўся незаменным. На вялікі жаль, не толькі ў пераносным, але і ў самым прамым сэнсе. З 7,5 ставак хірурга па штатнаму раскладу ў райбальніцы заняты толькі паўтары, а дакладней, Міхаіл Анісімавіч аказаўся ў горадзе адзіным хірургам.**

**Маладыя спецыялісты, натуральна, ехаць у Хойнікі, якія побач з Чарнобылем, не хочуць. Тыя ж, хто працуе тут па кантракту ці вахтавым метадам, ледзь дачакаўшыся канца тэрміну, пакідаюць гэтае месца. Іх зразумець можна. Вось толькі як быць жыхарам гэтага палескага гарадка, калі Міхаіл Анісімавіч раптам вырашыць пайсці на заслужаны адпачынак!**

ЦІКАВАСЦЬ ДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## ЖУРНАЛІСТЫ НА СЕСІІ

Як паведаміла парламенцкая прэс-служба, работу дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання асвятляюць 160 журналістаў. Апрача карэспандэнтаў сродкаў масавай інфармацыі Беларусі і былых цэнтральных выданняў, якія разам з новымі прадстаўляюць Расію, пры прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета акрэдытаваны мінскія ўласныя карэспандэнты газет «Диена» (Латвія), «Голос Украіны», «Республика Армения», «Жеч Посполита» (Польшча) і «Радио Свобода» ((Германія).

АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ

## ЗНОЎ ГЭТЫ РАЗУМАЎ

Старшыня прафкома КТБ Аршанскага інструментальнага завода Мікалай Разумаў, той самы, які быў героем летась, калі вывеў аршанцаў на чыгунку і спыніў рух паяздоў, звярнуўся да працоўных Беларусі з прапановай устрымацца на бліжэйшы перыяд ад правядзення ўсялякіх блакад, забастовак і іншых стыхійных выступленняў.

Метадам жа эканамічнага ўздзеяння на ўрад Разумаў прапаноўвае выбраць байкатаванне выплаты кватрплаты і платы за электраэнергію. Стачком Оршы прапанаваў палітычным партыям і грамадскім арганізацыям рэспублікі падтрымаць гэты зварот.

СІЛА ГРАМАДСКАСЦІ

## СУПРАЦЬ КАРУПЦЫІ

У Мінску створаны грамадскі фонд па барацьбе з бюракратызмам і карупцыяй. Як адзначаецца ў афіцыйнай заяве, зробленай для друку новай арганізацыяй, у Рэспубліцы Беларусь склалася спрыяльная абстаноўка для карупцыі.

Арганізатары фонду лічаць, што пры садзейнічанні канкрэтных службовых асоб нямала аб'ектаў дзяржуласнасці перададзена філіялам замежных прадстаўніцтваў у арэнду ці ўласнасць за чыста сімвалічную плату. Адначасова гэтыя ж асобы ці іх сваякі працуюць у вытворчых альбо камерцыйных структурах, якім ствараецца рэжым найбольшага спрыяння. Мэта фонду — весці галоснае грамадскае расследаванне фактаў бюракратызму і карупцыі, асвятляючы яго ход у сродках масавай інфармацыі.

СВАЕ СВАІХ

## РЭКЕЦІРЫ Ў ФОРМЕ

Групу афіцэраў, якія займаліся начным рэкетам на трасе Брэст — Масква, арыштавалі работнікі міліцыі.

На досвітку 14 красавіка на адным з участкаў аўтамагістралі раздаліся выстралы. Падпільнаваўшы «аб'ект», стралялі тыя, для каго гэта з'яўляецца прафесіяй.

На ногі была ўзнята гарадская міліцыя, апаратыўнікі суседніх раёнаў. Пошук грабежнікаў быў накіраваны ў бок абласнога цэнтра, і, як потым аказалася, гэтая версія поўнасцю спраўдзілася. Дваіх рэкеціраў затрымалі з півам ля валютнага магазіна «Бэла» каля Варшаўскага моста. У іх былі забраны пісталеты і нажы.

Астатніх з «бравай» чацвёркі арыштавалі ў адной з воінскіх часцей. Неўзабаве стала ясна, што афіцэры, якія сталі злачынцамі, грабілі на трасе Брэст — Масква сваіх жа калег, якія вярталіся з-за мяжы.

ХВАРОБА НАСТУПАЕ

## СНІД — AIДS

Газета «7 дней» паведаміла, што ў рэспубліцы выяўлены 71 носьбіт СНІДа, сярод іх — 40 іншаземцаў і 31 грамадзянін Беларусі. За 1991 год зарэгістравана 12 такіх выпадкаў, два летальныя зыходы. Хварэюць на СНІД пяцёра дзяцей. Трое ўнаследавалі вірус ад маці, двое заражаны ў медыцынскіх установах Расіі.

Ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, акрамя Гродзенскай вобласці, знойдзены інфіцыраваныя. Больш за ўсё іх у сталіцы — 16 «сваіх» грамадзян, 30 іншаземцаў. Апошнім часам СНІД усё больш прыкметна набывае «мясцовы» характар. На медыцынскім уліку ўжо трое інфіцыраваных брэстаўчан, чацвёра віцябчан, сямёра гамяльчан.

ЯК У ВАЙНУ

## ХЛЕБ ПА КАРТКАХ

У Верхнядзвінскім раёне хлеб адпускаецца па спісах, зацверджаных сельскімі Саветамі, а ў самім горадзе — па спецыяльных картках. Норма — 500 грамаў чорнага хлеба ў дзень на чалавека.

Пайсці на такі крок гарадскія і раённыя ўлады прымусілі дзве акалічнасці. Па-першае, хлебам кормяць свойскую жывёлу, а па-другое, яго вывозяць у Латвію, дзе цана на хлеб вышэйшая, чым у Беларусі.

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## ТЫДЗЕНЬ У СТРАСБУРГУ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыняў прапанову старшыні дэлегацыі Еўрапейскага парламента па ўсталяванню адносін з дзяржавамі — удзельніцамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў пані Магдалены Хоф аб правядзенні Тыдня Рэспублікі Беларусь падчас адной з сесій Еўрапарламента ў Страсбургу. Мяркуецца, што Тыдзень Рэспублікі Беларусь пройдзе ў Еўрапарламенце ў маі бягучага года. Прадугледжваецца арганізаваць у Страсбургу выставу твораў беларускіх мастакоў і вырабаў народнай творчасці, а таксама дакументальных матэрыялаў аб незалежнай Беларусі, яе эканамічным, сацыяльным і экалагічным становішчы.

НАВІГАЦЫЯ

## ЦЕПЛАХОДЫ НА БЕРАЗЕ

На Прыпяці пачалася навігацыя, але не ўсе судны Пінскага рачнога порта адправіліся ў рэйс. З-за недахопу паліва і скарачэння заказаў на грузаперавозкі 10 буксірных цеплаходаў засталіся на прыколе. І, хутчэй за ўсё, на ўвесь сезон.

І яшчэ адна сумная навіна. Спыніла сваё існаванне школа каманднага саставу, што месцілася ў Пінску. 22 слухачы, атрымаўшы дыпломы памочніка капітана і механіка, сталі апошнімі выпускнікамі школы. Закон рынку — няма попыту.

## У МІНСКУ АДКРЫЎСЯ ПЕРШЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ ЛАМБАРД




# ЗАХАВАННЕ З ГАРАНТЫЯЙ

Аб адкрыцці ламбарда ў Мінску пагаворвалі даўно. Але вось ужо на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ніхто не рашаўся ўзяцца за гэту патрэбную справу.

І нарэшце ў друку прамільгнула вельмі сціплае паведамленне-рэкламка, што па вуліцы Ракасоўскага, дом нумар сто шэсцьдзесят чатыры, пачала дзейнічаць новая ўстанова. «Ламбардъ» — менавіта так, на стары рускі манер, падаецца яе назва.

Некалькі здзівіў адрас. Памятаю, у 1978 годзе быў запрошаны ў Маскву асвятляць Дні Мінска на ВДНГ. Выступаючы перад масквічамі, адзін з кіраўнікоў мэрыі беларускай сталіцы гаварыў і аб ламбардзе. Казаў, што будаўніцтва яго запланавана «на бліжэйшую пяцігодку» і ўзведзены ён будзе амаль у цэнтры горада.

А тут — ускраіна. Ды і дом нумар сто шэсцьдзесят чатыры, нібы ў тым лабірынце: знайшоў будынак, прайшоў праз арку, потым праз двор і, нарэшце, убачыў тую шыльду «Ламбардъ» на аднапавярхоўцы.

— Як жа атрымалася, што ваша ўстанова аказалася так далёка ад цэнтра, нават мне, мінчаніну, цяжка знайсці яе? — было маё першае пытанне да загадчыцы ламбарда Лілі Агафонавай.

— На жаль, не мы выбіралі, так распарадзіліся гарадскія ўлады, дзе адвесці месца для нас, — коратка адказала яна.

— Хто ж тады гэтыя «мы» — смелыя людзі, што ўзяліся за такую нязвыклую для нас справу? Як прыйшлі да думкі адкрыць першы ў Беларусі ламбард?

— Мы — гэта фірма бытавога абслугоўвання «Вясёлка», — тлумачыць Ліля Іванаўна. — І, трэба прызнацца, сапраўды ўзяліся мы за нялёгкую справу. Бо не маем ні вопыту, ні дапамогі. Але ёсць вера, што справа гэтая вельмі патрэбная для такога вялікага горада, як Мінск. Вазьміце Украіну ці Расію. Там ужо многа ламбардаў. Не буду пералічваць колькі, але падкрэслю, што ля іх заўжды чэргі. Практыку, вучобу я праходзіла ў Маскве і Кіеве...

— Магчыма недзе ў Расіі і сапраўды ёсць чэргі. А вось ля вашай установы штосьці пуставата, — перапыніў я рэплікай сваю субяседніцу.

— Усё новае заўжды прыжываецца і цяжка, і не адразу. Галоўнае, я лічу, у тым, што мы яшчэ мала разумеем функцыі ламбарда. Я не маю на ўвазе само слова — ламбард. Яго ведае і школьнік, хаця яно і прыйшло да нас з замежнай мовы. А вось чым займаецца гэта ўстанова, не заўжды растлумачыць і чалавек з вышэйшай адукацыяй. Але толькі — на першым часе. Ці не таму ў нас і здараюцца непаразуменні...

З непаразуменнямі мне прыйшлося сутыкнуцца перад сустрэчай з Ліляй Іванаўнай. Сталая жанчына спытала ў мяне, як знайсці ламбард. Сказала, што нясе туды прадаць дарагі сервіз. І яшчэ спытала: «Колькі за яго дадуць?» Літаральна праз мінуту да мяне падышоў ужо падлетак, які не рашаўся зайсці ў ламбард. Вырашыў пракансультавацца, ці возьмуць пад залог патрыманы магнітафон. Ні ў першым, ні ў другім выпадку я, вядома, не мог даць дакладны адказ ці параду.

— Жанчына не ведала, што ламбард скупкай рэчаў не займаецца, — коратка пракаменціравала Ліля Агафонава. — Напэўна не ведаў і хлопец таго, што ніякая апаратура не прымаецца без гарантыйнага пашпарту.

Яшчэ аб адным. Часам кліенты блытаюць ламбард з банкам. Ламбард нікому і ніколі не пазычае грошы. Гэта не яго функцыі.

За здачу рэчаў на захаванне ці атрыманне грошай пад залог кліенту трэба плаціць. Прыкладна за адну тысячу ацэнкі здадзенага ламбард бярэ сорак рублёў. Здавалася б, аб якой выгадзе можа ісці размова?

— А выгада вялікая, — тлумачыць Ліля Іванаўна. — Скажам, вы збіраецеся паехаць у камандзіроўку ці ў адпачынак. Дома ж — вельмі каштоўныя рэчы, якія за вашу адсутнасць могуць украсці злодзеі. У такім выпадку раім звярнуцца да нас і захоўваць іх тут, пакуль будзеце адсутнічаць.

Або вы захацелі заняцца бізнесам, а сродкаў не хапае. Пад залог у нас можна атрымаць пэўную суму грошай. Праўда, сума, натуральна, не павінна перавышаць кошту самога залогу. Звычайна тэрмін залогу абмяжоўваецца трыма месяцамі, але яго можна пераафарміць.

— Ліля Іванаўна! А дзе гарантыі таго, што кліент атрымае менавіта сваю рэч, а не чужую пасля сканчэння тэрміну захавання? — пытаюся я.

— Гарантыя поўная. Калі кліент прыносіць рэч на захаванне ці пад залог, на яе складаецца поўнае апісанне. Скажам, вы прынеслі да нас залаты пярсцёнак. Узамен вы атрымліваеце вопіс, дзе гаворыцца, што ваш пярсцёнак такой пробы, такой вагі і памеру... Падмяніць, тым больш украсці таксама ніхто не зможа: сістэма аховы надзейная.

На заканчэнне нашай гутаркі я папрасіў загадчыцу ламбарда пазнаёміць мяне з складскімі памяшканнямі, дзе захоўваюцца рэчы кліентаў. І атрымаў... катэгарычную адмову. Тут ужо як у той шырока вядомай рускай песні: «А в терем тот высокий нет хода никому». Супрацоўнікамі ламбарда гарантуецца тайна прозвішча кліентаў, колькасці здадзеных імі рэчаў, іх пералік і многае іншае. Выключэнне не робіцца ні для кога. У ламбарда свае законы, і яны строга выконваюцца.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

## «НАДЗЕЯ— ЭКСПРЭС»

**У рамках падрыхтоўкі да рэалізацыі буйнамаштабнай гуманітарнай акцыі «Надзея — экспрэс» у нашу рэспубліку прыбыла дэлегацыя амерыканскіх спецыялістаў, якую ўзначальвае кіраўнік праекта пан Д. Мамфорд.**

**Гэта акцыя ўяўляе сабой бясплатную харчовую дапамогу насельніцтву Беларусі па лініі ўрада Злучаных Штатаў праз Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША пры пасрэдніцтве прыватнай некамерцыйнай арганізацыі «Сіціхоўп Інтэрнэшнл» (штат Нью-Йорк, прэзідэнт арганізацыі — п. Пол Моар).**

**Планам прадугледжваецца адпраўка з ЗША марскім шляхам 281 кантэйнера з харчаваннем агульным аб'ёмам звыш 3,5 тысячы тон і яго прамое размеркаванне з удзелам амерыканскага боку сярод сем'яў, якія маюць найбольшую патрэбу, а таксама перадача дамам для састарэлых і інвалідаў, школам-інтэрнатам, лячэбным установам — галоўным чынам у абласцях і раёнах Беларусі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

# ЗАЛАТЫ ТРАФЕЙ ЯКАСЦІ

НЕ ТАК ДАЎНО дырэкцыя Мінскага завода халадзільнікаў атрымала цікавую тэлеграму. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: «Мы вельмі рады вам паведаміць, што наш падрыхтоўчы камітэт XX міжнароднага конкурсу «Трафей якасці» — прыза, які ўручаецца нашым выдавецтвам сумесна з клубам лідэраў гандлю розным фірмам, дзейнічаючым у галіне прамысловасці і паслуг, якія на працягу года атрымалі шырокае міжнароднае прызнанне, выбраў вашае прадпрыемства ў якасці прызёра 1991 года.

Юбілейнае ўручэнне Залатога трафея адбудзецца ў гатэлі «Мел'я Касціл'я» ў Мадрыдзе пры ўдзеле прадстаўнікоў іспанскага ўрада, членаў дыпламатычнага корпуса, акрэдытаваных у Мадрыдзе і найбольш вядомых прадстаўнікоў дзелавых і культурных колаў Іспаніі...

Прыз уручаецца на аснове інфармацыі, атрыманай ад членаў «Клуба лідэраў гандлю», гандлёвых палат, міжнародных арганізацый і асацыяцый, сродкаў масавай інфармацыі, а таксама на аснове даследаванняў рынку».

І вось ганаровы прыз прыехаў упершыню ў Мінск. Як было адзначана на яго ўручэнні, ён з'яўляецца адным з самых прэстыжных у свеце. Толькі некалькі фірм, і то якія займаюцца сервісным абслугоўваннем на тэрыторыі СНД, атрымалі Залаты трафей якасці. Мінскі завод халадзільнікаў — першае прадпрыемства суверэннай Беларусі, якое стала яго ўладальнікам. Цяпер на працягу двух гадоў таварны знак халадзільнікаў «Мінск» будзе ўпрыгожваць лагатып Залатога трафея якасці як пацвярджэнне неаспрэчных заслуг рабочых МЗХ, будзе сведчыць пра талент і перспектывы развіцця ўсяго беларускага народа.

Як адзначыў на ўрачыстай сустрэчы з нагоды ўручэння Залатога трафея якасці генеральны дырэктар Мінскага завода халадзільнікаў Леанід Калугін, гэты прыз з'яўляецца не толькі прызнаннем дасягненняў завода ў гэтым рэчышчы, але і арыенцірам у паляпшэнні якасці прадукцыі на будучыню.



**НА ЗДЫМКУ: генеральны дырэктар МЗХ Л. КАЛУГІН уручае Залаты трафей якасці прадстаўніку службы якасці завода Ж. БАБУСЕНКА.**

**Фота Д. ЧАХОВІЧА.**

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# КАГО ЛІЧЫЦЬ ЗДРАДНІКАМ РАДЗІМЫ?

ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ! Прачытаў у вашай газэце «Голас Радзімы» № 6 за 1992 год артыкул Ільяшука «Дык з кімжа нам трэба было змагацца». З гэтага артыкула можна заключыць, што сп. А. Ільяшук ёсьць выхаванец чыста таталітарнай сыстэмы, дык для яго дэмакратыя ёсьць цёмны лес. Адносна таго, што ён езьдзіў за межы быўшага СССР і пісаў чыстую праўду ў сваіх артыкулах, хай скажа каму другому, але не нам, эмігрантам на Захадзе. Калі савецкі карэспандэнт едзе за межы СССР, ён мусіць хваліць сваё гняздо, а што бачыць за мяжой, калі лепшае перавярнуць наадварот, гэта была аксіёма таталітарнага партыйнага кіраўніцтва. Каб ён апісваў праўду, што бачыў, то яго мейсца было б там далёка-далёка ў Сібіры. З ягоным выхаваньнем (так, як і многа другіх на сёння ў СНД) ён не можа пагадзіцца, што сталінская таталітарна-бюракратычная сыстэма, яго кліка і далейшыя паслядоўнікі абманвалі людзей у працягу 70 гадоў. Крычалі-агітавалі, што будуюць найлепшы сацыялізм у сьвеце, але для каго? Для сваёй эліты, а для народа — турму. Такім абманам за 70 гадоў завялі людзей у такі тупік, з якога цяжка знайсьці выйсьця найлепшым светавым эканамістам. А на працягу гэтых 70 гадоў былі людзі, якія прадбачылі, што сталінскі камунізм гэта ёсць утопія, але яны не маглі сказаць праўду, а хто адчыніў рот, той загінуў у Курапатах або ў Сібіры ці Варкуце. Рэшта сядзелі, зачыніўшы рот, цягнулі непасільную лямку, выконвалі загады прымусовага дыктатарскага рэжыму, перакрочыўшы паншчыну сярэдніх вякоў. Сваім тэрорам і канчатковым неправідловым стаўленьнем да чалавека сталінскі рэжым пасеяў вялікі недавер да ягонай сыстэмы і нажыў сабе многа затаіўшыхся праціўнікаў, і ўсе яны з дня на дзень чакалі якогась выбуху, бо няма нічога вечнага пад Месяцам. А гэта здарылася: грымнула гітлераўская вайна, і ягоная ўмелая прапаганда і першыя крокі вайны канчаткова пахіснулі людзей на яго бок, бо ніхто не ведаў, што нясе Гітлер, але ўсе добра ведалі, што даў людзям Сталін. Да прыкладу, дыктатура, канцлягер, абман, расстрэлы, голад. За некаторы час народ раскусіў і гітлераўскую прапаганду, бо ён прынёс для беларусаў тое самае, што і сталінская сыстэма, але ўжо было позна, бо шмат ужо працавала ў акупацыйнай зоне — значыць пад кіраўніцтвам нямецкіх уладаў, думалі, што Гітлер зломіць галаву Сталіну, а сам загіне ў неаб'ятных абшарах быўшага СССР пры дапамозе партызан і тайнага супраціўленьня людзей. Але кола павярнула ў другі бок. Гітлерава войска не ўстаяла пад ціскам савецкіх войск. Зьмяніць сваё становішча ніхто не мог, а кожны ведаў, калі ты працаваў у нямецкіх акупацыйных установах — з немцамі, то для сталінскай сыстэмы ты ёсьць здраднік Радзімы. Так, кожны чалавек мае Радзіму, і мы, беларусы, мелі Радзіму, але свайго беларускага ўрада не мелі, бо ў той час урад не быў беларускі, а быў марыянетачны ўрад Масквы, дык бараніць беларускі народ не было каму, і сотні тысяч беларусаў уцякалі на захад, каб не папасьці ў сталінскую мясарубку. Прымаўка кажа: «Калі чалавек топіцца, то і за саломку хопіцца». Цяпер возьмем здраднікаў сп. Ільяшука — **паліцыю.**

Калі нямецкі фронт пайшоў далей на ўсход, то гарады і мястэчкі заставаліся пад цывільнай уладай. Нямецкі зондэрфюрэр назначаў з фольксдойчаў начальнікаў раёнаў або сельскіх саветаў, гарадскіх начальнікаў, калі такіх не было, то назначаўся чалавек, які пацярпеў ад сталінскай рэпрэсіі, а гэтыя арганізоўвалі ўправы, канторы, паліцыю. Калі быў аб'яўлены набор у беларускую паліцыю, хто пайшоў туды першы? Людзі, пацярпеўшыя ад сталінскага тэрору, яны складалі 90 працэнтаў усяго саставу паліцыі, а 10 працэнтаў — быўшыя салдаты Чырвонай Арміі, якія вандравалі без прытулку ў тыле нямецкай акупацыі, а мо і яны былі пакрыўджаны сталінскім тэрорам. Пазней пайшлі ў паліцыю і другія ахвотнікі. Дык якія яны былі здраднікі Радзімы, калі яны баранілі сваю сям'ю, сваіх родзічаў, сваю Радзіму ад сталінскага тэрору, ад маскоўскай акупацыі і яе марыянетачнага ўраду? А колькі было такіх жыхароў Беларусі, што сядзелі і не спалі начамі, а чакалі чорнага варана ды таго, што пастукаюць у дзьверы пасьля 12-й гадзіны ночы. Дык пры нямецкай акупацыі і гэтыя людзі ўздыхнулі лягчэй ды пайшлі працаваць да немца. Гэтак сталася з уласаўцамі. Сам Уласаў быў савецкі генерал. Ягоны маніфэст быў абнародаваны ўдачна, прапагандавая машына працавала на выдатна сярод ваеннапалонных. Кожны салдат Чырвонай Арміі добра ведаў закон Сталіна: ваюй, але ў палон не здавайся, астатняя пуля сабе ў лоб, а гэтага не зрабіў, значыць «здраднік Радзімы». А каб не загінуць ад сталінскай мясарубкі і не загінуць ад галоднай сьмерці ў ваеннапалонным лягеры, то пад унушальнаю ўласаўскаю прапагандаю яны раскусілі горкае сталінскае яблыка, і многія рашылі ісьці ва ўласаўскую армію і ваяваць супраць Сталіна. Але Сталін сядзеў у Крамлі, а Гітлер у рэйхстагу, а іх полчышчы ваявалі адно супраць другога. Уласаўцы пайшлі ваяваць супраць Сталіна і яго арміі, якая бараніла Сталіна, але не супраць народа і не супраць сваёй Радзімы, яны ішлі бараніць Радзіму ад праізвольнай сталінскай дыктатуры і ягоных памочнікаў.

Што сталася цяпер? Сталіна развянчалі, ягоную сыстэму разрушылі як прыдуманую нежыцьцёвую утопію. Значыць сталінскую клічку «здраднік Радзімы» для эмігрантаў 2-й светавай вайны беларускі ўрад і вярхоўная беларуская рада павінны зьняць і забараніць яе ўжываць. Здраднікам Радзімы я лічу таго, хто ўкраў дзяржаўны сакрэт і прадаў яго за грошы другой дзяржаве, або шпіёніць у карысьць другой дзяржавы за грошы, ды а яго злавілі і судзяць як здрадніка Радзімы. А тыя, што не пагаджаюцца з палітыкай адной асобы, што тэрорам зьнішчае ўсіх, хто на яго дарозе, дык яны бяруць зброю і ідуць ваяваць супраць ягонай зброі, то не ёсьць здраднікі Радзімы, а гэта людзі, праціўнікі адзін другога на фронце, і стаяць у апазіцыі дыктатарскаму рэжыму. Дык вось сп. Ільяшук, усе вашыя «зраднікі Радзімы» многія гады таму назад стаялі ў апазіцыі, бо прадбачылі, што выдуманы сацыялізм Марксам і Энгельсам ёсьць утапічны, а Ленін і Сталін фанатычна хацелі яго прымусам на практыцы ажыцьцявіць супроць волі народа, што і прывяло быўшы СССР да эканамічна-сацыяльнага і палітычна-нацыянальнага краху, як згніўшую сыстэму. Што мы бачым сёньня? Пераможаная і ўшчэнт знішчаная Нямеччына ў 2-ю светавую вайну цяпер дапамагае свайму пераможцу СНД. А вынік гэтага справядлівы: дэмакратычны ўрад Нямеччыны без тэрору, без хвальбы і абману будуе эканоміку дзяржавы па ўсіх правілах дэмакратычнага жыцьця, што выпрацаваны і прыняты людствам на практыцы сотнямі гадоў назад.

**Янка РОЛСАН.**

*P.S. Зьмясьціць ці не гэты артыкул у вашай газэце, то ваша справа, а гэта наша эміграцкая думка, і думаю, што яна больш-менш справядлівая.*

Аўстралія.

# СЛУЖБА АВІР УПАЎНАВАЖАНА ЗАЯВІЦЬ...

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

**гадалі пра тых, хто вярнуўся з Ізраіля на Беларусь. Маеце на ўвазе рээміграцыю? Гэта даволі неспадзявана.**

— Справа ў тым, што пры разглядзе дакументаў на выезд мы ўжо чатыры гады не карыстаемся графой «нацыянальная прыналежнасць», якая раней палохала людзей і стала «притчей во языцех». Яшчэ адна заваёва дэмакратыі. Аднак калі глядзець з іншага боку, гэты факт значна ўскладніў працу статыстыкаў, дэмографаў, вучоных, якія заклікаы вывучаць дэмаграфічныя зрухі. Не вядзём мы ўлік і людзей неяўрэйскай нацыянальнасці, хто апынуўся ў Ізраілі, як і тых, хто вяртаецца адтуль. Але можам канстатаваць, што на прыёме ў МУС з ліку апошніх пабывала каля паўтара дзесятка чалавек. А па апраксіміраваных звестках, цяпер у рэспубліцы знаходзяцца 200—250 нашых суайчыннікаў, якія шукаюць любую зачэпку, каб не ехаць назад. І гэта не толькі сем'і некарэннай нацыянальнасці, неяўрэі, хоць іх і многа, але і тыя, хто паверыў, што едзе на сваю гістарычную Радзіму.

А як трапляюць славяне? У нас выезд у кожную замежную дзяржаву ажыццяўляецца грамадзянамі любой нацыянальнасці на агульных умовах. Напрыклад, шлюбы. Ёсць выпадкі, калі на «зямлю запаветную», ці то атрымаўшы запрашэнне ад сваякоў-яўрэяў, ці то ад нібыта існуючых там родзічаў, выбіраюцца чыста славянскія сем'і. Часамі іх чакаюць вялікія цяжкасці. Праўда, павінен заўважыць, што мы не ведаем ізраільскага заканадаўства па дакументаванню, па прызнанню іх грамадзянамі. Думаю, што з усталяваннем дыпламатычных сувязяў гэты недахоп будзе зліквідаваны. Такім чынам, грунтуючыся на размовах з рээмігрантамі, можна зрабіць высноў, што нацыянальны бар'ер у Ізраілі існуе. Славянскім сем'ям цяжэй знайсці заробак. Шлюбы, якія яны зарэгістравалі законным парадкам у СНД, не заўсёды там прызнаюцца, бо ўсе яны мусяць быць зафіксаваны ў равінаце. А равінат можа і не зацвердзіць такі шлюб, ці матрыманіальныя адносіны паміж яўрэем і неяўрэйкай, альбо наадварот.

**— І якім жа шляхам ідзе вяртанне?**

— Пражыўшы ад некалькіх месяцаў да года ў Ізраілі, людзі бяруць візу ў нашым пасольстве ў Румыніі альбо нават у Ізраілі і прыязджаюць як турысты. Затым звяртаюцца ў органы ўнутраных спраў... Тое ж тычыцца і гасцей, хто наведвае Беларусь па прыватнаму запрашэнню. Наколькі можам, мы дапамагаем гэтым людзям, якія расчараваліся ў жыцці за мяжою і ў каго ёсць падставы застацца. Першы аргумент—наяўнасць жылля альбо сваякоў, якія ім валодаюць. Рээмігранты імкнуцца атрымаць кватэру, купіць яе за валюту. Тут мы бяссільныя дапамагчы, у нас фактычна не існуе заканадаўчага замацавання працэдуры афармлення дакументаў для іх.

**— Якраз аб гэтым хачу запытаць... Агульнавядома, што ўзровень дэмакратызацыі, прыярытэту права чалавека ў любым грамадстве сярод іншага правяраецца на асялку свабоды перамяшчэння, выездаў, эміграцыі. Прасцей кажучы, калі паедзем бесперашкодна за мяжу!**

— Заканадаўчая работа ў рэспубліцы пачалася. Прыняты Закон аб грамадзянстве. У залежнасці ад яго распрацоўваецца палажэнне аб парадку разгляду матэрыялаў па пытаннях грамадзянства ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. Наша служба разам з ім завяршае давядзенне гэтага дакумента, мяркую, што хутка ён будзе прыняты. Пасля яго прыняцця мы і МЗС РБ выпрацуем сваё ведамаснае палажэнне і інструкцыі аб парадку праходжання заяў аб грамадзянстве.

Значна горш ідзе працэс прававога забеспячэння знаходжання на тэрыторыі Беларусі замежных грамадзян. Праект такога закона ўжо падрыхтаваны, і я, шчыра кажучы, не разумею, чаму ён не вынесены на гэтую сесію парламента. Але, безумоўна, нам болей за ўсё патрэбен закон аб уездзе-выездзе. 20 мая 1991 года быў прыняты саюзны закон, які планавалася ўвесці ў дзеянне з 1 студзеня 1993 года. Лічу, што ён дэмакратычны па духу і адэкватны нашаму часу, вытрыманы ў дакладнай адпаведнасці з Заключным дакументам Венскай сустрэчы. Закон прадугледжваў прынцыпова іншую ў параўнанні з сённяшняй працэдуру разгляду хадайніцтваў і новы падыход да парадку выезду. На гэты момант у нас дзейнічае дазвольны парадак, калі мы даём дазвол на кожную замежную паездку, ставячы дазвольны запіс у пашпарце. Згодна з законам 1991 года, адзіным фактарам, які б рэгуляваў уезд-выезд, было б абавязковае атрыманне пашпарта, а таксама ўязной візы ў тую краіну, дзе прынята візавая сістэма, і запрашэнне, дзе бязвізавая, гэта — былыя сацыялістычныя краіны.

На сёння ёсць цяжкасці з распрацоўкай беларускага закона аб уездзе-выездзе. Такім чынам, мы адстаём у лібералізацыі заканадаўства аб выездах, скажам, ад Расіі на паўгода — год. Наколькі я інфармаваны, Расія альбо ратыфікуе Закон ад 21 мая 1991 года цалкам, альбо створыць уласны, але пад канец года будзе мець заканадаўства аб уездзе-выездзе. А мы, па ўсім відаць, не...

**— Дык што, і тут прававая бязважкасць!..**

— Не, мы ніякім чынам не працуем у прававым вакууме. Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1991 года «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь» і дапаўненне да яго ад 14 лістапада 1991 года гавораць, што ў выпадку адсутнасці адпаведных актаў нашага заканадаўства ў далейшым працуе заканадаўства СССР. Сёння мы кіруемся заканадаўствам СССР і былога МУС Саюза. І будзем гэта рабіць, пакуль не будуць прыняты заканадаўчыя акты альбо іншыя рашэнні органаў улады Беларусі.

**— Да таго ж трэба дадаць, што акты гэтыя вельмі працаёмкія, скажам, пашпартызацыя. Сёння багата размоў ідзе аб пашпарце...**

— МУС Беларусі распрацавала канцэпцыю адзінага пашпарта, прынятага для ўжывання як у межах, так і па-за межамі дзяржавы. Добра гэта ці кепска? З пункту гледжання эканамічнага, міжнародных зносін, такі падыход блізкі да сусветнай практыкі. Аднак цэлы шэраг дзяржаў выдае пашпарты толькі пры выездзе за мяжу. Украіна адмовілася ад ідэі адзінага пашпарта.

Канцэпцыя прынята, ёсць палажэнне аб пашпарце, але няма тэхнічнай магчымасці рэалізаваць яго. Нешта робіцца. Але вельмі праблематычна, што сёлета грамадзяне Беларусі атрымаюць адзіны пашпарт.

**— Сяргей Іванавіч, мы перажываем архіцяжкі, крызісны этап пераходу да новай грамадска-палітычнай, эканамічнай сістэмы, нараджэння і спробы стаць на ногі нашай беларускай дзяржаўнасці. Як пачуваецца ў гэтых варунках служба, якую вы ўзначальваеце!**

— Ніколі яшчэ служба АВІР не знаходзілася ў такім складаным становішчы... Унутры яе праводзяцца незразумелыя структурныя змяненні, прымаюцца рашэнні на ўзроўні безадказнай ацэнкі сітуацыі. Ёсць намеры вывесці нас з сістэмы органаў МУС і перадаць грамадзянскім установам. Уяўляеце, якія могуць адбыцца злоўжыванні, хаос? Кожнай дзяржаве патрэбен кантроль за абгрунтаванасцю выдачы пашпартоў і дакладны як колькасны, так і якасны ўлік тых, хто выязджае па ўсіх параметрах: мэты, узрост, тэрмін знаходжання за мяжой і г. д. Многае ёсць і ў цяперашніх анкетах, але мы фізічна не ў стане іх перабраць. Патрэбен электронны ўлік, сучаснае тэхнічнае забеспячэнне. 800 тысяч выязджала адно ў мінулым годзе... А непасрэдна ў рэспубліканскай служба працуе некалькі чала-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА

## ФІЛАРЭТА

## ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА УСЯЕ БЕЛАРУСІ, ЧЛЕНА СВЯШЧЭННАГА СІНОДА

**ПРААСВЯШЧЭННЫЯ АРХІПАСТЫРЫ, ПАСТЫРЫ, ПАЧЭСНАЕ МАНАСТВА І ЎСЕ ВЕРНЫЯ ДЗЕЦІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ!**

*Уваскрэсення дзень, і прасвецімся ўрачыстасцю, і адзін аднаго абдымем. Скажам, братове, і ненавіснікам нашым даруем ўсё Уваскрэсеннем...*

**СЦІХІРА ВЯЛІКАДНЯ.**

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Любасныя! Хрыстос сапраўды ўваскрэс. А калі, кажа апостал Павел, Хрыстос не ўваскрэс, дык марная, гэта значыць дарэмная вера наша. І хіба можа пагадзіцца наш дух і наш розум з тым, што труною завяршаецца быццё чалавека — вянка Божага тварэння?! Не! Сёння мы з Царквою «смерці святкуем умярцвенне, пеклава разбурэнне, іншага жыцця вечнага пачатак» (Канон Вялікадня). Таму светлы і радасны дзень святога Вялікадня, а за ім і кожны нядзельны дзень года.

Бо сярод радасцяў і смуткаў бурлівага пераменлівага зямнога быцця, калі на вачах у многіх пакаленняў узнікаюць і бурацца магутныя, здавалася б, вечныя зямныя царствы, калі нараджаюцца і паміраюць мудрацы веку гэтага, калі з'яўляюцца і знікаюць традыцыі і звычаі людскія, — толькі прамяністае свята Вялікадня Гасподняга пераможнай і радаснай весткай Уваскрэсення асяняе быццё чалавечага роду.

Як чалавек, Гасподзь наш Ісус Хрыстос трыццаць тры гады жыў сярод людзей, вучыў іх праўдзе жыцця, дараваў грахі, ацаляў ад хваробаў, уваскрэшваў мёртвых і, нарэшце, прынёсшы Сябе за нас у акупальную ахвяру Богу, «уваскрэс з мёртвых, першынец з памерлых (І Кар. 15, 20). Тым самым Ён паказаў кожнаму з нас шлях да збавення ад грэху, шлях да вечнага жыцця з Богам. І мы верым, што смерць на Зямлі не ёсць знішчэнне, не канец быцця, а толькі пераход да жыцця іншага.

Святы апостал Павел абвяшчае: «У Хрысце ўсе ажывуць, кожны ў сваім парадку: Першынец — Хрыстос, потым — Хрыстовыя, у прышэсце Яго» (І Кар. 15, 22—23). У гэтых прарочых словах выяўлена ўсё наша спадзяванне. Ахвярная любоў Хрыста мацнейшая за тленне — яна перамагае смерць! Але гэты прадказаны дзень нашага супольнага з ім уваскрэсення схаваны ад чалавечага разумення. І мы, чакаючы другога прышэсця Госпада нашага Ісуса Хрыста, павінны быць увесь час гатовыя да гэтай сустрэчы, што азначае — жыць у згодзе з Яго святымі запаведзямі.

Праваслаўны хрысціянін, асабліва ў наш неспакойны час, заўсёды павінен быць напагатове: раніцай, удзень і ўвечары — усе свае помыслы і ўчынкі вымерваць паводле Хрыстовага вучэння і святаайцоўскіх настаўленняў пра любоў да Бога і блізкага — пра дзеі міласэрнасці. У гэтым мы павінны бачыць заруку нашага духоўнага збавення і шчаснасці зямной Бацькаўшчыны — Рэспублікі Беларусь.

Любасныя ў Хрысце праасвяшчэнныя архіпастыры, найпачэснейшыя айцы, браты і сёстры! Ад усёй душы віншую вас з радасным святам Вялікадня Гасподняга і хачу падзяліцца тым, што трывожыць мае розум і сэрца.

Гасподзь наканаваў нам жыць у перыяд вялікіх патрасенняў. Цяпер суровы, цяжкі, але, калі ўдумацца, і ратавальны час. Летась рухнула дзяржаўная сістэма, заснаваная на вучэнні, якое адмаўляла быццё Бога. Гэты светапогляд пазбаўляў людзей сапраўднага сэнсу жыцця, зводзіў іх, створаных паводле вобраза і падабенства Божага, — да стану бязмоўных. Пры гэтым уціскі і ганенні на пастыраў і вернікаў, якія не хавалі сваёй прыналежнасці да Царквы, перавышалі ўсе вядомыя дагэтуль пераследы хрысціянаў.

Але свечка не патухла! І Царква Хрыстовая подзвігамі святых пакутнікаў і спавядальнікаў, у Бацькаўшчыне нашай распрамененых, здолела не толькі выжыць, але і быць тым горадам, які наверсе стаіць (Мц. 5, 14), і да якога імкнуцца спадзяванні людзей. Зноў пераконваемся ў непахіснасці слоў Хрыста Збавіцеля: «Збудую Царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе» (Мц. 16, 18).

Аднак у нашым грамадстве зарадзілася спадчыннасць духоўнай спустошанасці. І сёння мы востра перажываем плён гэтай грахоўнай спадчыннасці. Што мы бачым навокал? Разброддзе ідэяў і думак, рэзкае падзенне нораваў і як вынік гэтага — распад сям'і, нестабільнасць у штодзённым жыцці грамадства, хваравітая ўзбуджанасць людзей, а часам і азлабленне — усё гэта спараджае рознага роду змусты, спакусы і разлады.

Газетныя артыкулы, перадачы радыё і тэлебачання, побач з духоўнымі тэмамі абвальваюць на нас тлумы ўсё новых і новых прадказальнікаў і гаіцеляў, магаў і экстрасэнсаў, варажбітоў і чарадзеяў, якія зводзяць нас убок далёка ад Дабравесця Хрыстовага, у якім Ён кажа: «Я — і шлях і ісціна і жыццё» (Ін. 14, 6). Узнікаюць ерасі і ўнутрыцаркоўныя расколы, якія замахваюцца на адзінства Святой, Саборнай, Апостальскай Царквы.

Госпадзе! Аслані спадчыну Тваю сілаю Крыжа і Ўваскрэсення! Дай нам моц Тваю і благаславі людзей Тваіх спакоем.

Але каб не стацца толькі выкрывальнікамі грэху іншых, мы, слугі Царквы, павінны прызнаць і сваю чалавечую немач і выспавядаць яе перад вамі, бо пахібы ў царкоўным жыцці і на нашым сумленні, за што і просім даравання.

Аз, недастойны архіярэй ваш, у першую чаргу ўсведамляю свой грэх перад Богам, Царквою і паствою, калі, шукаючы, безумоўна, дзеля карысці Царквы, спадзяваўся толькі на чалавечую сілу, на сваё чалавечае разуменне і ўступаў у супроцьстаянне разбуральным антыцаркоўным планам, забываючы параду Псалмапеўца: «Не спадзявайцеся на князёў, на сына чалавечага, у якім няма выратавання» (Пс. 145, 3).

Любасныя! Магчыма, святочны настрой і ўрачыстая абстаноўка не для такіх роздумаў, але я жадаю сустрэць Вялікдзень з радасцю на сэрцы, а гэта магчыма, толькі зняўшы з сумлення свой грэх малаверства і пыхлівасці.

Таму, менавіта ў гэты названы і святы дзень, я і хачу пачуць ад вас, мая любасная паства, голас даравання маім грахам дзеля Хрыста і Яго слаўнага Ўваскрэсення.

Даруйце мне, браты і сёстры! Даруем адзін аднаму ўсё Ўваскрэсеннем!

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Дарагія архіпастыры, пастыры, браты і сёстры! Усім нам, хто святкуе сёння Светлае Хрыстовае Ўваскрэсенне, належыць цвёрда памятаць настаўленне апостала Іакава: «Якая карысць, братове мае, калі хто кажа, што ён мае веру, а дзеяў не мае?.. Бо, як цела без духу мёртвае, так і вера без дзеяў мёртвая» (Іак. 2, 14, 26).

Таму, святкуючы сёння Вялікдзень Хрыстовы, згадаем і трагедыю нашу, якая адбылася ў гэты дзень роўна шэсць гадоў назад у Чарнобылі. Перад намі, дарагія, бясконцае поле працы і клопату пра тых, што ў цяжкіх хваробах жывуць і будуць далей несці свой жыццёвы крыж. Яны чакаюць ад нас дзейснай любові, мілажальнай міласэрнасці і канкрэтных учынкаў, у чым і выявіцца, паводле слова ап. Іакава, сутнасць веры нашай.

Ад глыбіні пачуццяў сардэчных яшчэ раз віншую з Вялікаднем Гасподнім усіх жыхароў нашай Рэспублікі, усіх беларусаў, у рассеянні сутных, усіх братоў і сясцёр па веры Хрыстовай, усіх шанавальнікаў гэтага выратавальнага дня.

Хай будзе благаславенне Ўваскрэслага Хрыста з усімі вамі. Амінь.

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

САПРАЎДЫ ЎВАСКРЭС!

**ФІЛАРЭТ,**

**МІТРАПАЛІТ МІНСКІ І СЛУЦКІ,**

**ПАТРЫЯРШЫ ЭКЗАРХ УСЯЕ БЕЛАРУСІ.**

Вялікдзень Хрыстовы
1992 г.
г. Мінск.








**Напярэдадні праваслаўнага свята Вялікадня ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі ў Гродне разгорнута экспазіцыя велікоднай атрыбутыкі. Тут прадстаўлена каля 250 паштовак і 100 жывапісных яек з дрэва і фарфору, а таксама формы для велікодных кулічоў, падстаўкі для яек, жолабы для іх качання. Калекцыя складзена з фондаў музея і адносіцца да XVIII—XIX стагоддзяў. Экспанаты ўражваюць сваёй прыгажосцю, арыгінальнасцю, разнастайнасцю.**

**НА ЗДЫМКАХ: галоўны захавальнік музея Ніна ЛЯШЧОНАК дэманструе экспанаты выстаўкі; велікодныя паштоўкі XIX стагоддзя.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# КАГО ЛІЧЫЦЬ ЗДРАДНІКАМ РАДЗІМЫ?

ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ! Прачытаў у вашай газэце «Голас Радзімы» № 6 за 1992 год артыкул Ільяшука «Дык з кімжа нам трэба было змагацца». З гэтага артыкула можна заключыць, што сп. А. Ільяшук ёсьць выхаванец чыста таталітарнай сыстэмы, дык для яго дэмакратыя ёсьць цёмны лес. Адносна таго, што ён езьдзіў за межы быўшага СССР і пісаў чыстую праўду ў сваіх артыкулах, хай скажа каму другому, але не нам, эмігрантам на Захадзе. Калі савецкі карэспандэнт едзе за межы СССР, ён мусіць хваліць сваё гняздо, а што бачыць за мяжой, калі лепшае перавярнуць наадварот, гэта была аксіёма таталітарнага партыйнага кіраўніцтва. Каб ён апісваў праўду, што бачыў, то яго мейсца было б там далёка-далёка ў Сібіры. З ягоным выхаваньнем (так, як і многа другіх на сёння ў СНД) ён не можа пагадзіцца, што сталінская таталітарна-бюракратычная сыстэма, яго кліка і далейшыя паслядоўнікі абманвалі людзей у працягу 70 гадоў. Крычалі-агітавалі, што будуюць найлепшы сацыялізм у сьвеце, але для каго? Для сваёй эліты, а для народа — турму. Такім абманам за 70 гадоў завялі людзей у такі тупік, з якога цяжка знайсьці выйсьця найлепшым сьветавым эканамістам. А на працягу гэтых 70 гадоў былі людзі, якія прадбачылі, што сталінскі камунізм гэта ёсьць утопія, але яны не маглі сказаць праўду, а хто адчыніў рот, той загінуў у Курапатах або ў Сібіры ці Варкуце. Рэшта сядзелі, зачыніўшы рот, цягнулі непасільную лямку, выконвалі загады прымусовага дыктатарскага рэжыму, перакрочыўшы паншчыну сярэдніх вякоў. Сваім тэрорам і канчатковым неправідловым стаўленьнем да чалавека сталінскі рэжым пасеяў вялікі недавер да ягонай сыстэмы і нажыў сабе многа затаіўшыхся праціўнікаў, і ўсе яны з дня на дзень чакалі якогась выбуху, бо няма нічога вечнага пад Месяцам. А гэта здарылася: грымнула гітлераўская вайна, і ягоная ўмелая прапаганда і першыя крокі вайны канчаткова пахіснулі людзей на яго бок, бо ніхто не ведаў, што нясе Гітлер, але ўсе добра ведалі, што даў людзям Сталін. Да прыкладу, дыктатура, канцлягер, абман, расстрэлы, голад. За некаторы час народ раскусіў і гітлераўскую прапаганду, бо ён прынёс для беларусаў тое самае, што і сталінская сыстэма, але ўжо было позна, бо шмат ужо працавала ў акупацыйнай зоне — значыць пад кіраўніцтвам нямецкіх уладаў, думалі, што Гітлер зломіць галаву Сталіну, а сам загіне ў неаб'ятных абшарах быўшага СССР пры дапамозе партызан і тайнага супраціўленьня людзей. Але кола павярнула ў другі бок. Гітлерава войска не ўстаяла пад ціскам савецкіх войск. Зьмяніць сваё становішча ніхто не мог, а кожны ведаў, калі ты працаваў у нямецкіх акупацыйных установах — з немцамі, то для сталінскай сыстэмы ты ёсьць здраднік Радзімы. Так, кожны чалавек мае Радзіму, і мы, беларусы, мелі Радзіму, але свайго беларускага ўрада не мелі, бо ў той час урад не быў беларускі, а быў марыянетачны ўрад Масквы, дык бараніць беларускі народ не было каму, і сотні тысяч беларусаў уцякалі на захад, каб не папасьці ў сталінскую мясарубку. Прымаўка кажа: «Калі чалавек топіцца, то і за саломку хопіцца». Цяпер возьмем здраднікаў сп. Ільяшука — **паліцыю.**

Калі нямецкі фронт пайшоў далей на ўсход, то гарады і мястэчкі заставаліся пад цывільнай уладай. Нямецкі зондэрфюрэр назначаў з фольксдойчаў начальнікаў раёнаў або сельскіх саветаў, гарадскіх начальнікаў, калі такіх не было, то назначаўся чалавек, які пацярпеў ад сталінскай рэпрэсіі, а гэтыя арганізоўвалі ўправы, канторы, паліцыю. Калі быў аб'яўлены набор у беларускую паліцыю, хто пайшоў туды першы? Людзі, пацярпеўшыя ад сталінскага тэрору, яны складалі 90 працэнтаў усяго саставу паліцыі, а 10 працэнтаў — быўшыя салдаты Чырвонай Арміі, якія вандравалі без прытулку ў тыле нямецкай акупацыі, а мо і яны былі пакрыўджаны сталінскім тэрорам. Пазней пайшлі ў паліцыю і другія ахвотнікі. Дык якія яны былі здраднікі Радзімы, калі яны баранілі сваю сям'ю, сваіх родзічаў, сваю Радзіму ад сталінскага тэрору, ад маскоўскай акупацыі і яе марыянетачнага ўраду? А колькі было такіх жыхароў Беларусі, што сядзелі і не спалі начамі, а чакалі чорнага варана ды таго, што пастукаюць у дзьверы пасьля 12-й гадзіны ночы. Дык пры нямецкай акупацыі і гэтыя людзі ўздыхнулі лягчэй ды пайшлі працаваць да немца. Гэтак сталася з уласаўцамі. Сам Уласаў быў савецкі генерал. Ягоны маніфэст быў абнародаваны ўдачна, прапагандавая машына працавала на выдатна сярод ваеннапалонных. Кожны салдат Чырвонай Арміі добра ведаў закон Сталіна: ваюй, але ў палон не здавайся, астатняя пуля сабе ў лоб, а гэтага не зрабіў, значыць «здраднік Радзімы». А каб не загінуць ад сталінскай мясарубкі і не загінуць ад галоднай сьмерці ў ваеннапалонным лягеры, то пад унушальнаю ўласаўскаю прапагандаю яны раскусілі горкае сталінскае яблыка, і многія рашылі ісьці ва ўласаўскую армію і ваяваць супраць Сталіна. Але Сталін сядзеў у Крамлі, а Гітлер у рэйхстагу, а іх палчышчы ваявалі адно супраць другога. Уласаўцы пайшлі ваяваць супраць Сталіна і яго арміі, якая бараніла Сталіна, але не супраць народа і не супраць сваёй Радзімы, яны ішлі бараніць Радзіму ад праізвольнай сталінскай дыктатуры і ягоных памочнікаў.

Што сталася цяпер? Сталіна развянчалі, ягоную сыстэму разрушылі як прыдуманую нежыцьцёвую утопію. Значыць сталінскую клічку «здраднік Радзімы» для эмігрантаў 2-й сьветавай вайны беларускі ўрад і вярхоўная беларуская рада павінны зьняць і забараніць яе ўжываць. Здраднікам Радзімы я лічу таго, хто ўкраў дзяржаўны сакрэт і прадаў яго за грошы другой дзяржаве, або шпіёніць у карысьць другой дзяржавы за грошы, ды а яго злавілі і судзяць як здрадніка Радзімы. А тыя, што не пагаджаюцца з палітыкай адной асобы, што тэрорам зьнішчае ўсіх, хто на яго дарозе, дык яны бяруць зброю і ідуць ваяваць супраць ягонай зброі, то не ёсьць здраднікі Радзімы, а гэта людзі, праціўнікі адзін другога на фронце, і стаяць у апазіцыі дыктатарскаму рэжыму. Дык вось сп. Ільяшук, усе вашыя «здраднікі Радзімы» многія гады таму назад стаялі ў апазіцыі, бо прадбачылі, што выдуманы сацыялізм Марксам і Энгельсам ёсьць утапічны, а Ленін і Сталін фанатычна хацелі яго прымусам на практыцы ажыцьцявіць супроць волі народа, што і прывяло быўшы СССР да эканамічна-сацыяльнага і палітычна-нацыянальнага краху, як згніўшую сыстэму. Што мы бачым сёньня? Пераможаная і ўшчэнт зьнішчаная Нямеччына ў 2-ю сьветавую вайну цяпер дапамагае свайму пераможцу СНД. А вынік гэтага справядлівы: дэмакратычны ўрад Нямеччыны без тэрору, без хвальбы і абману будуе эканоміку дзяржавы па ўсіх правілах дэмакратычнага жыцьця, што выпрацаваны і прыняты людствам на практыцы сотнямі гадоў назад.

**Янка РОЛСАН.**

*P.S. Зьмясьціць ці не гэты артыкул у вашай газэце, то ваша справа, а гэта наша эміграцкая думка, і думаю, што яна больш-менш справядлівая.*

Аўстралія.

# СЛУЖБА АВІР УПАЎНАВАЖАНА ЗАЯВІЦЬ...

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

**...згадалі пра тых, хто вярнуўся з Ізраіля на Беларусь. Маеце на ўвазе рээміграцыю? Гэта даволі неспадзявана.**

— Справа ў тым, што пры разглядзе дакументаў на выезд мы ўжо чатыры гады не карыстаемся графой «нацыянальная прыналежнасць», якая раней палохала людзей і стала «притчей во языцех». Яшчэ адна заваёва дэмакратыі. Аднак калі глядзець з іншага боку, гэты факт значна ўскладніў працу статыстыкаў, дэмографаў, вучоных, якія заклікаиы вывучаць дэмаграфічныя зрухі. Не вядзём мы ўлік і людзей неяўрэйскай нацыянальнасці, хто апынуўся ў Ізраілі, як і тых, хто вяртаецца адтуль. Але можам канстатаваць, што на прыёме ў МУС з ліку апошніх пабывала каля паўтара дзесятка чалавек. А па апраксіміраваных звестках, цяпер у рэспубліцы знаходзяцца 200—250 нашых суайчыннікаў, якія шукаюць любую зачэпку, каб не ехаць назад. І гэта не толькі сем'і некарэннай нацыянальнасці, неяўрэі, хоць іх і многа, але і тыя, хто паверыў, што едзе на сваю гістарычную Радзіму.

А як трапляюць славяне? У нас выезд у кожную замежную дзяржаву ажыццяўляецца грамадзянамі любой нацыянальнасці на агульных умовах. Напрыклад, шлюбы. Ёсць выпадкі, калі на «зямлю запаветную», ці то атрымаўшы запрашэнне ад сваякоў-яўрэяў, ці то ад нібыта існуючых там родзічаў, выбіраюцца чыста славянскія сем'і. Часамі іх чакаюць вялікія цяжкасці. Праўда, павінен заўважыць, што мы не ведаем ізраільскага заканадаўства па дакументаванню, па прызнанню іх грамадзянамі. Думаю, што з усталяваннем дыпламатычных сувязяў гэты недахоп будзе зліквідаваны. Такім чынам, грунтуючыся на размовах з рээмігрантамі, можна зрабіць высноў, што нацыянальны бар'ер у Ізраілі існуе. Славянскім сем'ям цяжэй знайсці заробак. Шлюбы, якія яны зарэгістравалі законным парадкам у СНД, не заўсёды там прызнаюцца, бо ўсе яны мусяць быць зафіксаваны ў равінаце. А равінат можа і не зацвердзіць такі шлюб, ці матрыманіальныя адносіны паміж яўрэем і неяўрэйкай, альбо наадварот.

**— І якім жа шляхам ідзе вяртанне!**

— Пражыўшы ад некалькіх месяцаў да года ў Ізраілі, людзі бяруць візу ў нашым пасольстве ў Румыніі альбо нават у Ізраілі і прыязджаюць як турысты. Затым звяртаюцца ў органы ўнутраных спраў... Тое ж тычыцца і гасцей, хто наведвае Беларусь па прыватнаму запрашэнню. Наколькі можам, мы дапамагаем гэтым людзям, якія расчараваліся ў жыцці за мяжою і ў каго ёсць падставы застацца. Першы аргумент—наяўнасць жылля альбо сваякоў, якія ім валодаюць. Рээмігранты прагнуць атрымаць кватэру, купіць яе за валюту. Тут мы бяссільныя дапамагчы, у нас фактычна не існуе заканадаўчага замацавання працэдуры афармлення дакументаў для іх.

**— Якраз аб гэтым хачу запытаць... Агульнавядома, што ўзровень дэмакратызацыі, прыярытэту права чалавека ў любым грамадстве сярод іншага правяраецца на асялку свабоды перамяшчэння, выездаў, эміграцыі. Прасцей кажучы, калі паедзем бесперашкодна за мяжу!**

— Заканадаўчая работа ў рэспубліцы пачалася. Прыняты Закон аб грамадзянстве. У залежнасці ад яго распрацоўваецца палажэнне аб парадку разгляду матэрыялаў па пытаннях грамадзянства ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. Наша служба разам з ім завяршае давядзенне гэтага дакумента, мяркую, што хутка ён будзе прыняты. Пасля яго прыняцця мы і МЗС РБ выпрацуем сваё ведамаснае палажэнне і інструкцыі аб парадку праходжання заяў аб грамадзянстве.

Значна горш ідзе працэс прававога забеспячэння знаходжання на тэрыторыі Беларусі замежных грамадзян. Праект такога закона ўжо падрыхтаваны, і я, шчыра кажучы, не разумею, чаму ён не вынесены на гэтую сесію парламента. Але, безумоўна, нам болей за ўсё патрэбен закон аб уездзе-выездзе. 20 мая 1991 года быў прыняты саюзны закон, які планавалася ўвесці ў дзеянне з 1 студзеня 1993 года. Лічу, што ён дэмакратычны па духу і адэкватны нашаму часу, вытрыманы ў дакладнай адпаведнасці з Заключным дакументам Венскай сустрэчы. Закон прадугледжваў прынцыпова іншую ў параўнанні з сённяшняй працэдуру разгляду хадайніцтваў і новы падыход да парадку выезду. На гэты момант у нас дзейнічае дазвольны парадак, калі мы даём дазвол на кожную замежную паездку, ставячы дазвольны запіс у пашпарце. Згодна з законам 1991 года, адзіным фактарам, які б рэгуляваў уезд-выезд, было б абавязковае атрыманне пашпарта, а таксама ўязной візы ў тую краіну, дзе прынята візавая сістэма, і запрашэнне, дзе бязвізавая, гэта — былыя сацыялістычныя краіны.

На сёння ёсць цяжкасці з распрацоўкай беларускага закона аб уездзе-выездзе. Такім чынам, мы адстаём у лібералізацыі заканадаўства аб выездах, скажам, ад Расіі на паўгода — год. Наколькі я інфармаваны, Расія альбо ратыфікуе Закон ад 21 мая 1991 года цалкам, альбо створыць уласны, але пад канец года будзе мець заканадаўства аб уездзе-выездзе. А мы, па ўсім відаць, не...

**— Дык што, і тут прававая бязважкасць!..**

— Не, мы ніякім чынам не працуем у прававым вакууме. Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1991 года «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь» і дапаўненне да яго ад 14 лістапада 1991 года гавораць, што ў выпадку адсутнасці адпаведных актаў нашага заканадаўства ў далейшым працуе заканадаўства СССР. Сёння мы кіруемся заканадаўствам СССР і былога МУС Саюза. І будзем гэта рабіць, пакуль не будуць прыняты заканадаўчыя акты альбо іншыя рашэнні органаў улады Беларусі.

**— Да таго ж трэба дадаць, што акты гэтыя вельмі працаёмкія, скажам, пашпартызацыя. Сёння багата размоў ідзе аб пашпарце...**

— МУС Беларусі распрацавала канцэпцыю адзінага пашпарта, прынятага для ўжывання як у межах, так і па-за межамі дзяржавы. Добра гэта ці кепска? З пункту гледжання эканамічнага, міжнародных зносін, такі падыход блізкі да сусветнай практыкі. Аднак цэлы шэраг дзяржаў выдае пашпарты толькі пры выездзе за мяжу. Украіна адмовілася ад ідэі адзінага пашпарта.

Канцэпцыя прынята, ёсць палажэнне аб пашпарце, але няма тэхнічнай магчымасці рэалізаваць яго. Нешта робіцца. Але вельмі праблематычна, што сёлета грамадзяне Беларусі атрымаюць адзіны пашпарт.

**— Сяргей Іванавіч, мы перажываем архіцяжкі, крызісны этап пераходу да новай грамадска-палітычнай, эканамічнай сістэмы, нараджэння і спробы стаць на ногі нашай беларускай дзяржаўнасці. Як пачуваецца ў гэтых варунках служба, якую вы ўзначальваеце!**

— Ніколі яшчэ служба АВІР не знаходзілася ў такім складаным становішчы... Унутры яе праводзяцца незразумелыя структурныя змяненні, прымаюцца рашэнні на ўзроўні безадказнай ацэнкі сітуацыі. Ёсць намеры вывесці нас з сістэмы органаў МУС і перадаць грамадзянскім установам. Уяўляеце, якія могуць адбыцца злоўжыванні, хаос? Кожнай дзяржаве патрэбен кантроль за абгрунтаванасцю выдачы пашпартоў і дакладны як колькасны, так і якасны ўлік тых, хто выязджае па ўсіх параметрах: мэты, узрост, тэрмін знаходжання за мяжой і г. д. Многае ёсць і ў цяперашніх анкетах, але мы фізічна не ў стане іх перабраць. Патрэбен электронны ўлік, сучаснае тэхнічнае забеспячэнне. 800 тысяч выязджала адно ў мінулым годзе... А непасрэдна ў рэспубліканскай служба працуе некалькі чала-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## МАЛАДЗЁЖНЫ ДУХАВЫ АРКЕСТР З ГЕРМАНІІ



**Па запрашэнню Саюза музычных дзеячаў Беларусі ў рэспубліцы знаходзіцца маладзёжны духавы аркестр зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (ФРГ). Гэты унікальны калектыў створаны ў 1985 годзе. Яго задача — даць магчымасць таленавітым інструменталістам ва ўзросце 12—25 гадоў разам выступаць у вялікіх сімфанічных аркестрах. Збіраючыся двойчы ў год, музыканты на працягу тыдня паспяваюць падрыхтаваць канцэртную праграму і паказаць яе слухачам.**

**У прайшоўшых з вялікім поспехам у Беларусі выступленнях калектыву пад кіраўніцтвам Райкхольда Рога і Андрэаса Хільнера прагучалі руская класіка і творы сучасных еўрапейскіх кампазітараў. На канцэрце, які адбыўся ў Мінску, прысутнічаў першы сакратар Пасольства ФРГ у Рэспубліцы Беларусь пан Рэгенбрэхт.**

**Праграма знаходжання маладых нямецкіх музыкантаў у Беларусі ўключае ў сябе творчую сустрэчу з мінскім дзяржаўным аркестрам духавых інструментаў «Няміга», сустрэчы з творчай моладдзю беларускай сталіцы і горада Гродна.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўны дырыжор аркестра Райкхольд РОГ.**

# СЛУЖБА АВІР УПАЎНАВАЖАНА ЗАЯВІЦЬ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

век. І чакаецца чарговае скарачэнне... У нас задача напрацоўваць нарматворчую базу, мы мусім пачынаць ab ovo. І я вельмі занепакоены, хто будзе займацца гэтымі праблемамі.

**— Нашы чытачы часта пытаюцца, якім чынам можна выехаць за мяжу. Колькі гэта каштуе! Як запрасіць замежнага родзіча ці знаёмага!**

— Як выехаць? Парадак адзіны для ўсіх краін выезду: неабходна мець на руках запрашэнне. З ім прыходзіце ў тэрытарыяльныя органы ўнутраных спраў, запаўняеце анкету. Далей ажыццяўляецца афармленне дакументаў, пашпарта. Дзяржаўная пошліна за пашпарт складае 400 рублёў, за дазвольны запіс 200. З гэтым вы маеце права ехаць у былыя сацкраіны. У капіталістычныя патрэбуецца віза, якую вы здабываеце ў пасольстве. Абмежаванні на колькасць выездаў у год зняты. Пры паўторнай паездцы трэба заплаціць 200 рублёў.

Цяпер, каб запрасіць з-за мяжы... Звяртаецеся ізноў у органы МУС. Мы ладзім усе паперы, выдаём таму, хто запрашае, паведамленне аб запрашэнні. Чалавек высылае яго госцю, той звяртаецца ў пасольства. Вось і ўсё.

...Так, пытанняў многа. І мы звяртаемся да людзей, якія лепш, чымсьці нехта іншы, дасведчаны ў эміграцыйнай «навуцы», да землякоў на замежжы, заклікаючы іх узяць удзел на старонках «Голасу Радзімы» ў абмеркаванні праблематыкі ўезду-выезду. Шаноўныя замежныя суайчыннікі, усе вашы прапановы і меркаванні будуць надрукаваны і даведзены да ведама народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**P.S. Ужо калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што Савет Міністраў Беларусі даручыў МУС Рэспублікі Беларусь і іншым установам распрацаваць праект закона аб уездзевыездзе і ў сціслыя тэрміны вынесці на абмеркаванне Вярхоўнага Савета Беларусі. Нам жа застаецца чакаць, а нецярплівым—рыхтаваць самы вялікі кошык для тых яблыкаў... Кіслых ці салодкіх!**

## СВАБОДА ПЕРАМЯШЧЭННЯ Ў ЛІЧБАХ 1991 ГОДА

**872 тысячы грамадзян Рэспублікі Беларусь з рознымі мэтамі выязджалі за мяжу. У тым ліку выдана 384,6 тысячы замежных дакументаў для турыстаў, 88,8 тысячы ездзілі па службовых справах, 372,6 тысячы атрымалі дазвол на выезд па прыватных справах, афармлена 252,6 тысячы прыватных запрашэнняў на ўезд у рэспубліку.**

**Статыстыка выездаў на пастаяннае жыхарства (з улікам дзяцей да 18 гадоў): 1988— 3 264, 1989 — 14 676, 1990 — 34 195, 1991 — 22 005.**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДУХ— НЕ МІСТЫКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

больш шчыльныя сувязі з Бацькаўшчынай, а таксама з беларускімі арганізацыямі па-за яе межамі.

Клубнае існаванне сябе вычарпала, людзі сталі адчуваць незадавальненне, бо яны хацелі рабіць штосьці канкрэтнае і карыснае не ў будучыні, а ўжо зараз. Акрамя таго, апошнім часам у Расіі і ў Маскве, у першую чаргу, актывізавалася дзейнасць расійска-шавіністычных вялікадзяржаўных колаў. Спекулюючы на катастрафічным зніжэнні ўзроўню жыцця, гэтыя сілы могуць лёгка прыйсці да ўлады. Не дзіўна таму, што дзейнасць розных нацыянальных арганізацый у Маскве выклікае ўсё большую падазронасць, тым больш — арганізацый беларускіх (беларусаў тут мала хто лічыць асобным народам, які мог бы існаваць без Расіі). Нам чыняцца розныя перашкоды, напрыклад, ужо больш як чатыры месяцы падалі дакументы на рэгістрацыю статута «Пагоні», але пад прыкрыццём розных надуманых прычынаў рэгістрацыя зацягваецца на неакрэслены тэрмін. А рэгістрацыя між тым — адна з асноўных умоў нашай практычнай дзейнасці.

Усё гэта і прымушала нас шукаць іншыя накірункі работы.

Першым, хто адгукнуўся на наш заклік аб кантактах з замежных арганізацый, было Згуртаванне беларуска-амерыканскай моладзі з Нью-Йорка. Мы пачалі перапісвацца, і ёсць надзея, што нашае сяброўства будзе моцным і ўзаемакарысным.

Калі сябры «Пагоні» наведваюцца ў Беларусь, то сустракаюцца з прадстаўнікамі розных маладзёжных арганізацый. Такім чынам, мы маем сувязі і ўжо пачынаем супрацоўнічаць з «Выбранецкімі шыхтамі», Згуртаваннем беларускіх студэнтаў, хаўрусам беларускамоўных студэнтаў універсітэта, Інстытутам сучасных ведаў пры БДУ, нават з беларускімі скаўтамі.

Супрацоўніцтва пакуль што праяўляецца ў абменах: мы запрашаем іх на свае імпрэзы, яны нас — на свае. Абменьваемся літаратурай, інфармацыяй. На большае не хапае сродкаў: згуртаванне пакуль што не зарэгістраванае і не можа афіцыйна адкрыць «сваю камерцыю».

Ёсць зараз адзін, бадай што, самы важны накірунак для сумесных дзеянняў — гэта неабходнасць аб'яднання дзеля ўзмацнення беларускага маладзёжнага руху. Незалежныя маладзёжныя рухі, які ўзнік пасля развалу прапартыйнага камуністычнага саюза моладзі, зараз разрозненны і вельмі слабы. Большасць арганізацыяў не налічвае нават і 30 асобаў. Многія з іх спачатку ставяць перад сабой добрыя мэты, жадаюць іх рэалізаваць, а потым — распадаюцца, бо няма сродкаў і элементарнай падтрымкі з боку афіцыйных улады. На маю думку, маладзёжны рух павінен аб'ядноўвацца, каб на самым вышэйшым узроўні, у тым ліку заканадаўчым, уплываць на маладзёжную палітыку дзяржавы, падтрымліваць незалежны беларускі маладзёжны рух.

ЗБММ «Пагоня» мае праграму па адраджэнню гэтага руху, адзін з першых пунктаў праграмы — стварэнне Лігі беларускай моладзі. Мэта лігі: садзейнічаць развіццю тых арганізацый, якія спрыяюць патрыятычнаму і гуманістычнаму выхаванню, асветніцкай дзейнасці, прапагандуюць хрысціянскую мараль, распаўсюджваюць каштоўнасці нацыянальнай культуры і гісторыі, пашыраюць кантакты з моладдзю іншых краін. Дарэчы, у лігу павінны мець магчымасць уваходзіць і тыя маладзёжныя арганізацыі, якія існуюць за мяжой (у Расіі, ЗША, Канадзе і інш.).

Арганізацыйная будова мяркуецца прыкладна такая ж, як у Канфедэрацыі беларускіх суполак, з якой у свой час ствараўся хрыбет адраджэнскага руху.

Многія з тых, хто раздзяляе ў гэтым нашыя погляды, ужо зараз хацелі б пачаць штосьці рабіць. Але мы пакуль што нічога не пачынаем, бо няма яшчэ адпаведных для гэтага ўмоў. Таму мы яшчэ шырока не абвяшчалі пра наш праект. Сустракаемся і з перашкодамі. Спачатку праблема была такая: трэба было знайсці і згуртаваць энергічных і адданых ідэі людзей на Беларусі, бо адна «Пагоня», канешне, не здолела б выканаць гэтую складаную справу. Даволі хутка людзі знайшліся, і адразу ўзнікла праблема матэрыяльнага забеспячэння ўсяго праекта. Мы пачалі шукаць супрацоўніцтва ў гэтай сферы, чым займаемся і цяпер. Пакуль што ўсё тут звязана з вялікімі цяжкасцямі, але мы не страчваем аптымізму.

Зараз нечакана для нас пачынае шкодзіць справе былы камсамол. Нядаўна яны правялі свой з'езд, на якім вырашылі змяніць назву: раней называліся ЛКСМБ (Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі). Першыя два словы яны з лёгкасцю скасавалі і сталі называцца СМБ (Саюз Моладзі Беларусі). Усё вельмі проста. І заклікаюць моладзь зноў ісці да іх, пад новую шыльду.

**Андрэй АЛЕШКА,**
**старшыня Управы**
**ЗБММ «Пагоня».**

## ФЕСТЫВАЛЬ ХАРЭАГРАФІЧНАГА МАСТАЦТВА





**У Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь адбылося адкрыццё Першага міжнароднага фестывалю харэаграфічнага мастацтва «Я люблю балет». У ім прымалі ўдзел прызнаныя майстры балета і прадстаўнікі харэаграфічных вучылішчаў краін СНД, Германіі, Італіі, Швейцарыі, Нідэрландаў, Канады, Японіі. Адкрылі фестываль навучэнцы Дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Рэспублікі Беларусь. У фае тэатра гледачы маглі пазнаёміцца з выстаўкамі беларускага шкла і «Уражанне аб беларускім балеце» вядомай нямецкай мастачкі Інгрыд Шлар.**

**НА ЗДЫМКАХ: сярод ганаровых гасцей фестывалю — народны артыст Махмуд ЭСАМБАЕЎ; па-дэ-дэ з балета «Лебядзінае возера» выконваюць артысты балета ДАВТа РБ лаўрэаты Міжнароднага незалежнага конкурсу артыстаў балета імя С. Дзягілева Кацярына ФУРМАН і Веньямін ЗАХАРАЎ.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**21 красавіка, аўторак**

### ГРЫНЕВІЦКІ КАСЦЁЛ ФРАНЦЫСКАНЦАЎ

**Манументальны мураваны храм у Грыневічах (Свіслацкі раён) — выдатны помнік архітэктуры барока, яго завяршальнай стадыі развіцця. Збудаваны ў 1792 годзе манахамі ордэна францысканцаў, якія абмежавалі свой прыстанак мураванай агароджай з брамай. Будынак спланаваны па рымска-каталіцкаму канону ў выглядзе трохнефавай базілікі. Майстры барока імкнуліся асноўны архітэктурна-дэкаратыўны акцэнт стварыць на галоўным фасадзе будынка, які тут выступае пукатай, насычанай пластыкай сцяной — лапаткі, нішы, прафіліроўкі. За высокай пласцінай галоўнага фасада схаваны «карабель» храма, які характарызуецца буйнамаштабнасцю, аскетызмам дэкору масіўных архітэктурных аб'ёмаў. У інтэр'еры пануе перспектыва цэнтральнага высокага падоўжанага нефа, перакрытага цыліндрычным скляпеннем і асветленага высока ўзнятымі вокнамі. Галоўны шлях да алтара падкрэслены прыцемкам нізкіх бакавых нефаў, аддзеленых буйнымі аркадамі і перакрытых плоскай столлю. На магутнай аркадзе пры ўваходзе пакоіцца прасторная галерэя хораў, прызначаных для аргана — абавязковага музычнага атрыбута каталіцкай абраднасці. Як і знадворку храма, яго ўнутраны дэкор заснаваны на спалучэнні вертыкальна працягнутых пілястраў і бягучых уздоўж сцен складана прафіляваных карнізаў. З ганеннем на каталіцызм у мінулым стагоддзі касцёл у 1870 годзе быў пераасвячоны ў праваслаўную царкву. У выніку ў архітэктуры барочнага будынка з'явіліся элементы старажытнарускага дойлідства — кілепадобны шчыт над франтальным фасадам і такія ж абрамленні акон.**

**А. КУЛАГІН.**

**27 красавіка, панядзелак**

### ХАХУЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

Хахуля — вельмі цікавы, своеасаблівы звярок. Нідзе, акрамя нашай краіны, ён не сустракаецца. Продкі хахулі жылі каля 30 мільёнаў гадоў таму назад разам з мамантамі і насарогамі. Але тыя вымерлі, а гэты звярок захаваўся да нашага часу. Хахуля — «сваячка» насякомаедных: вожыка, крата, землярыйкі. У яе прыгожае, густое бліскучае футра і вельмі шчыльны і мяккі падшэрстак. Спінка хахулі шэравата-бурая, брушка серабрыста-бялявае. Даўжыня цела да 22 сантыметраў, маса 400-450 грамаў. Выцягнутая галава заканчваецца рухомым хабатком. Вочкі маленькія, і бачыць звярок дрэнна, а таму выцягнуты хабаток, дзякуючы нюху і адчувальнасці, іграе важную ролю. Усё жыццё хахулі звязана з вадой, таму не выпадкова гэтага звярка называюць яшчэ вадзяной землярыйкай. Звярок жыве ў азёрах, старых рэчышчах, рэках з добра развітой вадзяной раслліннасцю. Робіць сабе нару, уваход у якую знаходзіцца пад вадой. Звычайна плавае каля днішча, рыецца ў глеі, вышукваючы п'явак, смаўжоў, лічынак, чарвякоў. Хахуля актыўная круглы год, вясной і восенню прыносіць ад двух да пяці дзіцянят. Маладыя звяркі ва ўзросце 4—5 месяцаў пакідаюць нару бацькоў і пачынаюць весці самастойнае жыццё.

Хахуля, каштоўны пушны звярок, зараз амаль знішчана, хаця яшчэ сотню гадоў таму была самым звычайным, распаўсюджаным звярком у Беларусі. У апошні час яе двойчы завозілі з Хапёрскага запаведніка, натуральнага рэзервата, і выпускалі ў рэчышча Сожа і Пцічы. У невялікай колькасці звярок сустракаецца ў нізоўі ракі Пціч і ў пойме Прыпяці. Перад вучонымі стаіць задача — выявіць, дзе і ў якой колькасці яшчэ захавалася хахуля на тэрыторыі Беларусі. Кожнае паведамленне аб сустрэчы з гэтым рэдкім звярком мае вялікую цікавасць і важнасць.

**А. КУРСКОЎ.**



Вясна ў Белавежы. Фота В. БАСЬКО.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаюцца сваякі **КАРЧЭЎСКАЙ (ЖУК) Ксеніі Дзям'янаўны — ТАРАСЮК Іван**, яго жонка **Вольга** і іхні сын **Рыгор**, якія пакінулі Беларусь яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Да 1959 года з імі вялася перапіска па адрасах:

USA
John Tarasuk,
3454 Caniff Ave.
Hamtramck, Mich.

USA
J. Tarasuk
5611 Caniff
Detroit 12, Mich.

Усе спробы аднавіць сувязь у 1990 годзе не ўвянчаліся поспехам. Калі хто-небудзь ведае пра сям'ю Тарасюкоў, іх дзяцей і ўнукаў просім паведаміць у рэдакцыю ці на адрас:

**Рэспубліка Беларусь, 212027, г. Магілёў, бульвар Непакораных, д. 5, кв. 10.**



**ЛІСОЎСКАМУ Мікалаю Леанідавічу.**

**НА ЗДЫМКУ: ІВАН ТАРАСЮК з жонкай Вольгай і сынам Рыгорам.**

**МАТОХ Марына Мікалаеўна** (на здымку) 1927 года нараджэння шукае свайго роднага брата **МАТОХА Мікалая Мікалаевіча.** Ён нарадзіўся ў 1912 годзе ў горадзе Тураве Гомельскай вобласці.

Прашу ўсіх, хто што-небудзь ведае пра **МАТОХА Мікалая**, яго дзяцей ці ўнукаў, адгукнуцца на адрас:

**Рэспубліка Беларусь, 220095, г. Мінск, вул. Пляханава, дом 58, корпус 1, кватэра 50.**
**МАТОХ Марыне Мікалаеўне.**



**НА ЗДЫМКУ: Марына МАТОХ.**

## СПОРТ

### ФІЗКУЛЬТУРНАЯ АКАДЭМІЯ

2 красавіка Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб пераўтварэнні інстытута фізічнай культуры (у Мінску) у Акадэмію фізічнага выхавання.

Слаўная біяграфія ў гэтай ВНУ. Інстытут быў утвораны ў 1937 годзе. За гэты час тут падрыхтавана звыш 15 тысяч спецыялістаў: трэнераў, педагогаў, інструктараў. Асабліва праявілі сябе выхаванцы інстытута на Алімпійскіх гульнях, першынствах свету і Еўропы. Назавём толькі некалькі імён, якія ведае спартыўная планета: Уладзімір Камінскі, Алена Бялова, Уладзімір Парфяновіч... 500 выпускнікоў маюць званне заслужаных трэнераў Беларусі і былога Саюза.

І вось цяпер новая старонка ў слаўным летапісе.

— Перад нашай акадэміяй адкрываюцца вялікія магчымасці,— адзначыў яе прарэктар прафесар В. Марозаў. — У структуры акадэміі ствараюцца новыя інстытуты: настаўніцкі, трэнерскі і іншыя. Праблемная лабараторыя пераўтвараецца ў навукова-даследчы інстытут з канструктарскім бюро, эксперыментальнай вытворчасцю спортінвентару і абсталявання, а таксама друкарскім цэхам.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Зак. № 787.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12